



АВЯР’ЯН ДЗЕРУЖЫНСКІ



# Жывая азбука














ББК 84(4Беи)6
Д 43
УДК 882.6-93

Мастак С. Л. РЫЖЫКАВА

*Для малодшага школьнага ўзросту*

Д $\frac{8820600000-082}{М307(03)-95}$ 33—94
ISBN 5-7880-0860-3





**АГАТКІ**

Бялеюць
Агаткі —
То кветнік
Агаткі,
Аж люба на сэрцы
Дзяўчынкі малой...
Здаецца, запахла
Адталай зямлёю,
Духмянай
Травой маладой.

**ВЯСНЯНКІ**

Вяснянкі
На лузе
Вясняным уранку
Чародкаю
Выйшлі
За хаты
І чуюць
Вясёлыя песні —
«Вяснянкі»,
Якія
Спяваюць дзяўчаты.



**БРАТКІ**

Засінелі
Летам
Градкі,
Заквітнелі
Кветкі
Браткі.

З кожным
Днём іх
Будзе
Болей,
Быццам
Васількоў
На полі.

Рады
Кветкам
Браткам
Маці, я
І татка.





**ГВАЗДЗІК**

Гожых
Гваздзікоў
Газон,
Чырванее
Ў промнях ён.

І хоць ноч,
Хоць ясны дзень,
Кожны
Гваздзічок —
Прамень.

**ДУБРОЎКА**

Дубок маладзенькі
Схіляе галоўку,
Пад ім зелянее,
Бялее
Дуброўка.

Як пойдзеш
Далінай,
Дуброваю,
Гаем,
Дубровак
Багата,
Напэўна,
Спаткаеш.



**ЕЛКІНЫ КВЕТКІ**

Елкіны кветкі,
Елкіны кветкі —
Бы ружавеюць
Мяккія шышкі.

Елкіны кветкі
Трохі салодкія
Любяць мурашкі
І шустрыя мышкі.

**ЖАЎТАЗЕЛЬ**

На кароценькай назе
Куст
Жаўцеўся —
Жаўтазель.

Жаўтадзюбік-грак
Ляцеў,
Пад прыгожы куст
Прысеў.

Прыляцела
Жаўна
З дзятлам
Жоўтым —
Давідна.

Жаўтазель
Так ганарыўся,
Што з усімі
Ён здружыўся.

## ЗУБРОЎКА

Ззяе
Зуброўка
Раніцай
Золкай,
І на прылеску
Зіхціць
І мігае,
Свеціцца днём
І ўначы
Яснай
Зоркай,
І непрыкметна
Яна адцвітае.

## ІЛЬНЯНЫЯ КВЕТКІ

Ільняныя кветкі
Засінелі ўлетку,
Добра
Ім, танюткім,
Гнуткім,
Шапаткім.
Іх
І вецер лашчыць,
Іх
І сонца грэе,
Дождждык чыста мые
Ў летнія дзянькі.

## КАЗЛАБАРОД

Вясной і летам
Кожны год
Расце ў лужку
Казлабарод.

Казлабародаў
Многа, многа,
Казлінага
Няма нічога...

Жаўцее
Ля рачной вады
Казлабарод
Без барады.

## ЛАНДЫШ

Ландыш
Любы,
Ландыш
Мілы.
Два лісткі,
Бы тыя крылы,
Развіваюцца
Па ветры.
Ландышамі
Пахнуць ветры.

Ландыш
Тут і там
Бялее —
Лес наўкольны
Маладзее.



## МЕДУНІЦА

Медуніца,
Медуніца
З водарам
Мядовым.
Падабрала
Чараўніца
Колер адмысловы...

Сіняваты,
Ружаваты
Венчык,
Песцік кожны,
Модны ўбор
Такі багаты,
Заглядзецца
Можна.

## НЕЗАБУДКА

На двары
Зіма...
Прыпомніў —
Як аднойчы
Ўлетку
На лясной паляне
Ўбачыў
Незабудку-кветку.

Не забуду
Незабудку —
Гэту
Цуда-кветку,
Да яе зноў завітаю
На спатканне
Ўлетку.

## ОТ ВЕЛІКАН!..

От жа кветка
Ачарэтнік,
От і рост,
От велікан!
Верхавіна
Выглядае
Вострай дзюбкай
Ястрабка.

## ПРАЛЕСКА

Паволі снег
Растаў на ўзлеску —
І голаў
Узняла
Пралеска...
На наваколле
Паглядзела
І пышна-пышна
Расквітнела.

## РАСХОДНІК

Рос
Расходнік,
Росы піў,
Лес
Разгалісты
Любіў...
Разрастаўся
Густа-густа,
Зваўся
Зайцавай капустай.

## СОН-ТРАВА

Сон-трава
Не хоча
Спаць,
Ёй прыемна
Сустракаць
Сіні-сіні
Весні ранак,
Спеў
Саловак,
Спеў
Заранак.

## ТАПТУН

Там,
Дзе лужок нізінны,
Топкі,
Таптун — макрыца
З лісцем
Тонкім,
У дробнай
Квецені бялюткай
Расце ў час весні
Хутка-хутка.

## УРЭЧНІК

Урэчнік
У рэчках
У ціхіх шматлікіх
Умее
Углыб апускацца,
На лісцях падводных
Зусім невялікіх
Нястомна
На хвалях хістацца.



## ФІЯЛКА

Фіялкай
Фіялетавай
Любуюся ў ляску,
А птушка —
Птушка весела
Спявае на суку:
— Фія,
Фія,
Фія,
Фія,
Люблю, люблю
Фіялку я.

## ХРЫЗАНТЭМА

Хіліцца долу
Хрусткае лісце,
Хлешча дождж
Моўчкі, нема.
Кроплі-дажджынкі
Хрустальныя
Белая
П'е
Хрызантэма.



**ЦЫКОРЫЯ**

Кветак шмат,
Каторая
На лужку
Цыкорыя?
Тая вунь
Цыбатая,
Суквеццямі
Багатая,
Цвіце,
Цвіце, сінеецца,
На сонцы
Палымнеецца.

**ЧАБОР**

Чабор,
Чабарок,
Ён бачны здалёк,
Чаруе
І пахне салодка.
Ляціць
У лясок
Да яго,
Спяшаецца
Пчолак
Чародка.





**ШЫПШЫНА**

Шыпшына
Шуміць,
Лістотай
Шапоча,
Сказаць
Хлапчынку маленькаму
Хоча,
Што кветкі яе —
Калючкі,
Не рве хай,
Параняць ручкі.

**ЭЎКАЛІПТАВЫ ЦВЕТ**

Эўкаліпты
Квітнеюць
На поўдні,
Цвет іх вабны
Адразу прыкмеціш,
Ён чаруе
Красою сваёй
І адзін
З прыгажэйшых
На свеце.









**ЮРГІНІ**

Расціла
Юля
Ў садочку
Ўлетку
Юргіні —
Гожыя
Чырвань-кветкі.

Юргіні
Юля
Юру
Дарыла —
На сэрцы
Юры
Радасна, міла.

**ЯСНОТКА**

Як толькі
Неба хмурае —
Яснотка
Ўся панурая.

Стаіць
Цяплынь-пагодка —
Яснеецца
Яснотка.








**АСІНА**

Азораны,
Асветлены
Вясновым сонцам
Бор,
Асіна
Апранае
Пяшчотны свой убор.

Апратку
Адзявае,
Сатканую
З лісткоў,
Імкнецца ў рост,
Спяшае
Крануцца
Аблакоў.

**БЯРОЗКА**

Бярозка
Белая,
Бялянка
Ступіла моўчкі
На палянку.

Бяроста,
Бы сняжок,
Бялее,
Расце
Бярозка,
Зелянее.

**ВЯРБА**

Вярба,
Вярба,
Вярбінка...
Ветрыкі
Вясновыя
Распушылі
Коцікі
Пышныя
Вярбовыя.

**ГРАБ**

Гнуткі
Граб
Галіны
Гнуў,
Голлем
Глог ён
Ахінуў.

Граб
Зімой халоднай
Глог
Ад марозаў-сцюж
Бярог.

## ДУБ

Дрывасек
Заўважыў
Дуб:
«Дуб
Падыдзе мне
На зруб».

Перадумаў
Дрывасек:
«Шкода
Дрэва,
Дуб не ссек»

Вырас
Дуб —
Дубровы
Дар,
Чуб узняў
Да самых хмар.

## ЕЛКА

Еўка
Па ляску
Гуляе,
Елку лашчыць,
Абдымае:
— Будзь сяброўкаю,
Ялінка,—
Кажа
Елачцы
Дзяўчынка.

І схіляе голаў
Елка,
Задаволеная
Еўка.





## ЁЛКА

З лесу
Ёлачка прыйшла,
Як вясёлка
Расцвіла...

І на ёй
Гараць шары,
А пад ёй
Яе сябры...

Ёсць
Мядзведзік,
Ёсць і зай,
Быстраногі пагуляй.

Ёлка,
Ёлка,
Новы год,
Дзеці
Ладзяць
Карагод.

## ЖАСЦЁР

Жарам палае
На ўзлеску касцёр —
Жоўты,
Жоўта-чырвоны
Жасцёр.

## ЗЯНОВЕЦ

Зяновец-ракітнік
Кусціўся над рэчкай,
Згінаўся,
Згушчаўся
Над быстрацечкай...
Сабой
Засланяў,
Захінаў лугавіну,
Лістотаю
Лашчыў
Пяшчотна каліну.



## ІНЖЫР

Інжыр —
Смакоўніца —
Іначай
І дрэвам тутавым
Шчэ завуць,
Даспелы плод
Інжыра
Ўбачыш —
Адразу
Хочаш
Паспытаць.

## КЛЁН

Каля лесу,
Каля бору
Клён
Курчавы
Вецце гне,
Стройны стан
Бярозы белай
Ён лістотай
Ледзь кране.



## ЛІПА

Ліпа,
Ліпка,
Ліпкі-ліпкі
Тонкі
Кволенькі
Лісток.
Шэршань
Ледзь
Лістка кранецца —
Сок
Ліповы,
Як мядок.

## НЯКЛЁН

Няклён —
Татарскі
Гэта
Клён,
Сухменю
Не баіцца ён.

Яму не страшна
Нават суша,
Ніколі
Нізашто
Не ссушыць.

Няклён,
Няклён —
Сапраўдны ж
Клён,
Гамоніць,
Шэпча з ветрам ён.

## МІМОЗА

Мінула зіма,
Мінавалі
Марозы,
Маністамі-кветкамі
Ўбрана
Мімоза.
Мімоза
Квітнее,
Мімоза
Дабрэе,
У садзе
Расце
І ў аранжарэі.



## О, ДРЭВА!

О, дрэва!
О, дрэва!
О, веліч і дзіва!
Прырода цябе
Нездарма
Нарадзіла...

Ты вечна,
Ты вечна,
Ад веку да веку
І радасць,
І ўцеху
Даеш чалавеку!



## ПІХТА

На лясной
Паляне
Піхта,
Бы ў тумане,
Ранняй
Ахінаецца
Смугой.
Пахне
Піхта хвояй,
Церпкаю такою,
Кветкамі мядовымі,
Тайгой.

## РАБІНА

Рдзее гронкамі
Рабіна,
Ружавее
Ранкам,
Днём,
Палымнее,
Чырванее
Па-над
Рэчкай
За сялом.

## САСНА

Сасна,
Сасонніца,
Сасонка,
Стаіш ты
Ў засені лясной,
І неба
Сіняе,
І сонца,
І зоры
Цешацца табой.



## ТАПОЛЯ

На прыгорку
Ў чыстым полі
Зелянееццa
Тaполя.

Сонца,
Як засвеціць
Толькі,—
Лашчыць стан
Таполі
Тонкі.

А лісты яе,
Галіны
Сеюць водар
Тапаліны.

## У ЛЕСЕ

У лесе звычным,
У вясновым,
У лісцёвым,
У сасновым
Сяброўак многа
І сяброў —
Прылётных птушак
І звяроў.

У лесе,
У цяньку дубоў
Улетку
Не злічыць грыбоў...
А ягады —
Касой касі,
Бяры дармова,
Не прасі!

## ФІКУС

Фікус ёсць
І пакаёвы,
Фікус ёсць лясны,
Паўднёвы...

А лісты —
І не паверыш —
Велізарнейшых
Памераў.







## ХЛЕБНАЕ ДРЭВА

Хлебнае дрэва,
Хлебнае дрэва,
А на ім плод,
Нібы той гарбузок,
Добры ласунак,
Яго і зрываюць,
Смачны,
Духмяны
Пякуць калабок.

Хлебнае дрэва
Ў джунглях дрымучых,
Хлебнае дрэва
Расце
І ў садах,
Хлеб
На ствале,
На галінах
Трывалых —
Сытная,
Добрая
Людзям яда.

**ЦІС**

Ці чулі вы,
Ці, можа, не —
Ціс-дрэва
Ёсць такое?..
За дуб
Цвярдзейшае яно,
Кусціцца,
Шапаткое.

Ціс славіцца
Яшчэ сваёй
Цудоўнаю паставай,
На поўдні
Раскашуе ён
Пад сонейкам
Ласкавым.

**ЧАЧОТКА**

Чачотка — бяроза,
Чачоткі-галінкі
І ствол
У маленькіх
Чарнявых
Бугрынках.

Чачотка расце
Малой, невялікай,
Чашчобаў яна
Трымаецца дзікіх.

Чачотку завуць
І карэльскай бярозай.
Яна не баіцца
Суровых марозаў.





**ШАЎКОЎНІЦА**

Шаўкоўніца,
Шыкоўніца
Квітнела,
Шыкавала,
Шаўковыя,
Шырокія лісты —
Свой шоўк —
Снавала.

Шаўкоўніцы,
Шыкоўніцы
Лістамі
Былі рады
Шматлікія
Рухавыя
Малыя
Шаўкапрады.

**ЭЎКАЛІПТ**

Эх, вялізны,
Эх, прыгожы
Эўкаліпт
Дзівосны,
Зелянее
На прымор'і,
Стройны
І высозны.

**ЮЗАФАЎ ВЯЗ**

Вёскай хто едзе,
Ўбачыць ураз
Надпіс на дрэве:
«Юзафаў вяз».

Юзаф пакінуў
Свой след,
Тут жыў,
«Юзафаў вяз» —
Юзаф вяз
Садзіў.

Юзаф сканаў —
Не пайшоў
У нябыт,
Юзафаў вяз,
Як ён сам,
Не забыт!

**ЯСЕНЬ**

Ранкам
Ясень
Ясь садзіў,
Ясень
Хораша
Паліў.

Цёплы
Весні дзень
Ясней,
Ясеў
Ясень
Заквітнеў.






**АСЁЛ**

Асёл,
Асліха,
Асляня —
Адна-адзіная
Сям'я.

Ідзе
Адранку,
Як заўжды,
Папіць
Крынічнае
Вады,
А потым,
Праз кароткі час,
На луг скіруе,
На папас.

**БЕГЕМОТ**

Бегемот
Быў,
Быццам
Бочка,
У вадзе жыў
Днём
І ночкай.

Бегма
Бегаць
Не хацеў,
А ляжаў
І ўсё таўсцеў.



## ВОЎК

Вые
Воўк,
Не спіцца —
Зай дрыжыць,
Баіцца.

Вецер,
Снег,
Віхура,
Ноччу лес
Пануры...

Вусцішна,
Халодна,
Вые
Воўк
Галодны.



## ГІЕНА

Гіена
Гіркае,
Гіркоча,
Гараць
Гарачай злосцю
Вочы.

Учуе звера —
Хворы
Гіне:
Сажрэ
Гіена,
Не пакіне.

## ДЗІК

Дзік
Пад дуб
Дзікоў вадзіў,
Дзіцянят сваіх
Карміў.

Елі
Дзеткі
Жалуды,
Дуб
Даў
Смачнае яды.

Задаволены
Дзічкі —
Паласатыя
Бачкі.



## ЕЎРАПЕЙСКІ АЛЕНЬ

Ледзь заняўся
Летні дзень,
Ельнікам
Імчаў алень.
Прыпыніўся,
Еў асінкі,
Елачак малых
Іглінкі.
І шумелі
Елкі, сосны,
Звер рагаты,
Звер дзівосны
Знік з вачэй,
Нібыта цень,
У гушчар
Пабег алень.



## ЖЫРАФА

У саванах,
Як вядома,
Звер
Жырафа
Водзіцца,
Любімая дачушка
Ў яе —
Жырафка —
Родзіцца.

Расце
І не шманае
Жывёлінка бязрогая,
Жыць ёй
Дапамагае,
Карміцца
Шыя доўгая.

Лістотай дрэў,
Травою
Жыхарка поўдня
Жывіцца,
Жырафкаю малою
Жырафа
Не надзівіцца.

### ЗАЯЦ

Зімку
Заяц
Зімаваў,
Пад густой
Ялінкай
Спаў.
Зімняй ноччу
Грыз асінкі
І арэшніка
Галінкі.

Заяц так
Пражыў
Зіму,
Снілася
Вясна яму.

Пад ялінкаю лясной
І сустрэўся
Зай
З вясной.

### ІРБІ́С

Ірбіс —
І ён жа
Снежны барс —
Уніз
З вяршыні
Скокне ўраз.

І моц,
І лоўкасць
У нагах,
Прад ім адкрыты
Горны шлях.





### КАЗЯРОГ

Казёл дзікі,
Казяро́г,
Кажух доўгі,
Неблагі,
У яго
Казліны рог,
Ёсць і рог
Круты другі.

Быстры-быстры
Казярог,
Капыты,
Бы камяні,
І ляціць ён
З усіх ног
Па гарыстай
Вышыні.



### ЛАМА



Лама,
Ла́скавая
Лама —
Ламяня малога
Мама.

Лашчыць,
Ліжа
Лобік сынку,
Вушкі-слушкі,
Шыю, спінку.

### НЕРПА

Нерпа-маці
На ільдзіне
Нерпаняці
Нарадзіла.

Малачка яму
Давала,
Ненадоўга
Пакідала.

І на радасць
Нерпы-маці
Вырас хутка
Нерпаняці.

### МЯДЗВЕДЗЬ

Мядзведзь,
Мішка,
Мусіць, знае
Ўвесь
Малінавы лясок,
Дзе маліннік,
Дзе маліна —
Не праходзіць
Той куток.



**ОЙ, ЯНОТ!..**

Птушкам страшна:
— Ой, янот!
Ой,
Ой,
Ой,—
Паўзе,
Як кот...

Бачаць
Качкі ўсе
Звярка —
Вылятаюць
З азярка.

**ПУМА**

Там, дзе
Прэрыі,
Ляскі
Ды сыпучыя
Пяскі,
Пума
Ў Афрыцы жыве,
Леў — суродзіч у яе.

Пума любіць
Пагуляць,
Як гарэза,
Паскакаць.

Скокне
Метраў нават
Пяць,
Ходзіць
Птушак
Паляваць.





**РЫСЬ**

Рысь
Рыссю бегае
Сцежкай лясною
Хмураю,
Цёмнай
Вячэрняй парою.

Мох
Разрывае
Яна кіпцюрамі:
Рысь
Разгавецца
Жадае мышамі.

**САЙГАК**

Стэпам траўным
Між пяскоў
Ходзіць
Статак
Сайгакоў.

А важак —
Стары
Сайгак —
Саксаул
Каштуе ўсмак.



**ТАПІР**

З сівых,
Мінулых,
Даўніх год
Ідзе
Тапіра-звера
Род.

Тапір
Туляецца,
Брыдзе,
Засне ў балоце,
У вадзе
Ажно
На некалькі гадзін,
Прачнецца —
Сніцца кракадзіл...

У лес брыдзе
Тапір
Тады —
Хутчэй схавацца
Ад бяды.

**УСУРЫЙСКІ ТЫГР**

Уночы,
Удзень,
У спёку,
Мароз
Тыгр
Усурыйскі
Жыве без пагроз...

Няма мацней
Злоснага тыгра
Ў тайзе:
Звяры
Ад яго
Хаваюцца ўсе.





**ФОСА**

Фоса
Фыркае,
Фыркоча,
Злавіць птушку
Вельмі хоча.
Дрэва ўгледзела
Вярхушку,
Лезе ўверх,
Каб з'есці
Птушку.

Птушка дражніць:
— Фі,
Фі,
Фоса,
Застанешся,
Фоса,
З носам...

І ляціць
Далей ад фосы
Ў лес трапічны
Шматгалосы.

**ХАМЯЧОК**

Невялічкі
Хамячок —
У лясной нары
Дамок.

Холад,
Хмурна,
Хлюпата,
Хамяку
Спаць любата.

**ЦЮЛЕНЬ**

У звычайны
Цёплы дзень
Ціха,
Ціха плыў
Цюлень...

Плыў па моры,
Цікаваў,
Раптам
Рыбу напаткаў...

Лапай
Цап —
І еў усмак,
Добры быў
Цюлень рыбак.



**ЧАРАПАХА**

На прырэчных
На пясках
Ёсць нямала
Чарапах.

Чарапаха —
Ціхаход,
У яе
Марудны ход.

Чапаць
Чапае паволі,
Не пачуеш
Аніколі.

**ЭЙРАНІС**

На скале гары
Павіс
Бура-чорны
Эйраніс,
Галаву
Высока ўзняў,
За здабычай
Назіраў.

Эх, рухавы,
Спрытны ён,
Не ўцячэ ўжо
Скарпіён.
Знішчыць
Эйраніс жука,
Мнаганожку,
Павука.

Эйраніс —
Змяя,
Паўзун,
Шустры,
Вёрткі,
Нібы ўюн.

**ШЫНШЫЛА**

І не
Шые,
І не
Шыла
Вопраткі сабе
Шыншыла.

У яе
Адзенне-пух —
Мяккі
Шэранькі кажух.







**ЮБІЛЕЙ СЛАНА**

Дзесяць год слану,
Юбілей слана,
Цырк пахарашэў,
Чутна гамана.

Чутна
Гамана
І вясёлы смех,
Юны
Юбіляр
Малышам для ўцех.

Скача велікан,
Хоць і сам цяжкі,
І даюць слану
Дзеці піражкі.

Юлі,
Юркі тут,
Песні, карагод,
Юбіляр жа,
Слон,
Мае дзесяць год.

**ЯК**

— Паглядзі
Малюнак —
Як.
— Як? —
Смяецца хлопчык,—
Як?
— Сынку,
Знай,
Кажу я так:
Бык махнаты
Гэта —
Як.






## АРОЛ

Арол
Адолеў
Буры сілу,
Ляцеў
Асілак
Быстракрылы.

Акінуў позіркам
Прасторы,
Агледзеў
Лес наўкольны,
Горы.

І на гняздо,
На дуб высокі
Цар птушак
Прыляцеў
Здалёку.

## БУСЕЛ

Бусел,
Буська,
Бацянок,
Белы-белы
Кафтанок.
Басаногі ён,
Без ботаў,
Ходзіць,
Бродзіць
Па балотах.

Жабкі
Бусліка
Баяцца:
У чарот
Бягуць хавацца.



## ВАРОНА

Вараняці
Птушку-матку
Кліча, кліча
Ў сваю хатку.
Вечарэе,
Вецер зябкі,
Птах галодны,
Зябнуць лапкі.

А варона ўсё
Вароніць —
Дзіцяняці
І не корміць.
Вечарам,
Нарэшце,
Маці
Ўспомніла
Пра вараняці...

Накарміла,
Спаць паклала,
Калыханку
Варкавала.

## ГУСКА

— Дзе была ты,
Гуска?
— На балоце
Грузкім,
Там хадзіла я,
Гуляла,
Траўку
Гэткую шчыпала,
Нашую,
Гусіную,
З мяккай
Сэрцавінаю.







## ДРАЧ

Горла
Драў
На лузе
Драч:
— Драчанят няма,
Хоць плач...

Драчанятак
Драч чакаў,
Доўга-доўга
Іх гукаў

Драчаняткі,
Як пачулі,
І прыбеглі
Да татулі.

## ЕЛАВІК-КРЫЖАДЗЮБ

Шышку крыжадзюб
Дзяўбаў,
Зерні
Елкі
Даставаў.

Зерні
Елавік
Дастаў
Сваёй моцнай
Дзюбкай,
Ежу
Дзеткам раздаваў:
— Ешце,
Крыжадзюбкі!..

## ЖУРАВЕЛЬ

Журавель,
Жураўка,
Жораў
Мае ціхі,
Добры нораў.
На балотах
Жураўліных
Ён збірае
Журавіны...

У трубу —
Жалейку —
Трубіць,
Танцаваць
Жураўка любіць.
Жураўліха
З ім ласкáва,
Скача
Жыва,
Скача
Жвава.

## ЗАРАНКА

Яшчэ свеціць
Зорка,
Заранiца
Ранкам,
А пяе ўжо
Звонка
Ранняя
Заранка.

I чуваць
Выразна
Срэбны
Звон-званок,
Быццам
Звоняць
Нівы,
Травы,
Гай-лясок.





## ІВАЛГА

— Ілі-цілі,
Ілі-цілі,—
Івалга
Пяе над рэчкай.
Лес шуміць
Лісцём вясновым
І ўкрывае
Ім гняздзечка.

## КÁНЯ

Каня
Канькае,
Кігіча:
— Кігі,
Кігі,—
Дождажык
Кліча,—
Кігі,
Кігі,—
Хоча піць...

Над азёрамі ляціць,
Ловіць
Кропелькі-дажджынкі,
Як празрыстыя расінкі.
І ўсё
Кружыць,
І ўсё
Кружыць,
Канькае,
Кігіча,
Тужыць.



## ЛАСТАЎКА

Золак
Ледзь-ледзь
Дрэў вяршыні
Кранае,
Ластаўка —
Ласкаўка
Лугам
Лятае.
Ранкам
І днём
Напявае,
Шчабеча
І заціхае
Ў хацінцы
Пад вечар.

## НЫРОК-СВІРОК

На возеры
Нырок
Нырае,
Нічога ён
Не заўважае.
Наважыўся
На бераг плыць,
А тут як тут
Ліса бяжыць...

Нырок-свірок
Перапужаўся,
Нырнуў —
І ў хвалях ён
Схаваўся.

## МУХАЛОЎКА

Мухалоўка
Мух лавіла,
Мохам,
Мурагом
Хадзіла,
Трохі
Прытамілася,
Хвілю
Прыпынілася...

Села,
Пасядзела,
Хутка паляцела
Ў ціхі гай,
Дзе траўка,
Мяккая
Мураўка,
Многа-многа
Мушак
І сябровак-птушак.





## ОХ, ПРЫГОЖЫ КАЧАР!..

Агар,
Агар —
Тундровы птах,
Ох, і прыгожы
Качар ён!
Між купін,
Ля ракі ў кустах
Расце,
Гадуецца здавён.

Парушыць цішу
Звер —
Спалох,
Трывожны, часты
Сэрца ўдар,
Самотны крык:
— Ог, ог,
Ох, ох!..—
У мох хаваецца Агар.

## ПУГАЧ

Пустальгу
Пугач
Пужаў,
Пускаў ёй
Пыл у вочы.

Ён
Птушцы
Толькі
Пагражаў,
Сам нішчыў
Мышак ноччу.



## РАБЧЫК

Золак ззяў,
Было ранютка.
Рабчык бег
Па лесе хутка,—
Захварэла
Рабка —
Рабак-дзетак
Матка.

Рабчык
Дзятліка спаткаў,
Пра бяду сваю сказаў:
— Доктар,
Рабцы
Рады дай.
— Не бядуй,
Мой родны, знай,
Вазьмі лекі,
Ёсць якраз,
Рабка вылечыцца ўраз.



## САЛОЎКА

Свішча
Салоўка
Майскаю ночкай,
Ранкам і днём
Спявае,
Слых
Салаўіхі
Ў веснім садочку
Песціць,
Суцешна ласкае.

## ТУРУХТАН

Турухтан-кулік
Такуе,
Як палянку
Аблюбуе,
Тут і ладзіць
Такавішча,
Ток —
Вясновае ігрышча.

Турухтан —
Туп,
Туп,—
Тупоча,
Запрасіць
На танцы хоча
Прыгажуню
Турухтанку,
Што выходзіць
На палянку.



## УДОД

Удод
Убор
Расквеціў свой
У колер белы,
У ружовы,
Угледзеў раз,
Упадабаў
На ўсё жыццё
Лясок сасновы.

Яго жытло тут,
У дупле,
Магутнай
Стогадовай хвоі,
Укрыцца можна
Заўсягды
І жыць паціху,
У спакоі.

## ХРУСТАН

Хрустан —
Харошы
Сем'янін,
Жыць добра
Самцы-птушцы з ім.

Сам ён
Хатку
Хутка робіць,
Сам ён
Хрустанят выводзіць.

## ФІФІ

— Фіфі,
Фіфі,
Фіфі,—
Ля рэчкі
Пеў птах
Бялява-шэры,—
Я ў весні час
Тут звіў гняздзечка,
Не трэба
Лепш кватэры.

## ЦЕЦЯРУК

Цецярук
Цецерука
Цешыць
Сябра-дзівака:
— Я цябе
З тваёй
Цяцерай
Запрашаю
На вячэру.

Вечар
Цёмны
Ноч прыводзіць,
Цецярук жа
Не прыходзіць,
Не заве
На вячэру
І ні сябра,
Ні цяцеру.

**ЧОМГА**

Чуйная
Чомга
Чула
Подых вясны,
З выраю
Прыляцела
Ў край свой
Азёрны, лясны.

З пругкіх
Чаротаў
Чомга
Домік-гняздо спляла,
Ён, нібы
Човен, гайдаўся,
Возерам
Птушка плыла.

**ЭМУ**

Эму страус
Эх, вялізны,
Эх, і быстры,
Як алень,
Прабягае
Многа-многа
Кіламетраў
Кожны дзень.

Эму ведаюць
І дзеці —
Пісьманосец
Добры ён,
Эму
Ў вёсках афрыканскіх
Свой,
Любімы паштальён.

**ШЫПУН-ЛЕБЕДЗЬ**

Шыпун
Плыве,
Шыпун
Шыпіць,
Рака
Шырокая
Шуміць.

Плывуць
За лебедзем
Крылатым
Яго малыя
Шыпуняты.





**ЮРОК**

Юрок вясною
Гаманлівы,
Рухавы,
Спрытны і
Юрлівы.

— Юць,
Юць,
Юць,
Юць!..—
Чуваць з сасонкі
Яго вясёлы
Голас звонкі.

**ЯСТРАБ**

Сонечны дзень
Ясны-ясны,
Робіць кругі
Ў небе
Ястраб.

Яркае сонца
Палае,
Ястраб
Здабычы шукае...
Мерае
Неба абшары,
Кружыць,
Знікае пад хмары.



## ЗМЕСТ

**Азбуку для вас,**
**Для дзетак,**
**Склаў з любімых**
**Вамі кветак.**



**Лес заве, красою вабіць**
**З самай ранняе вясны.**
**Можа, вас каго цікавіць**
**Азбука і дрэў лясных?**





**Зачараваны на свеце**
**Ўсе прыродаю жывой,**
**Пэўна, хочаце вы, дзеці,**
**Ведаць азбуку жывёл.**



**Вось вам азбука**
**І птушак,**
**Любых змалку**
**Весялушак.**

Літаратурна-мастацкае выданне

ДЗЕРУЖЫНСКІ Авяр'ян Сафонавіч

**ЖЫВАЯ АЗБУКА**

Вершы



Рэдактар *У. М. Мазго*
Мастацкі рэдактар *В. А. Макаранка*
Тэхнічны рэдактар *А. В. Русецкая*
Карэктар *Л. К. Паплаўская*

Здадзена ў набор 14.01.94. Падпісана да друку 15.06.94. Фармат 60Х Х90 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура Тып Таймс. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 3,0. Ум. фарб.-адб12,5. Ул.-выд. арк. 3,40. Тыраж 25000 экз. Зак. 574.

Выдавецтва „Юнацтва" Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ №7. 220600, Мінск, Машэрава, 11.

Мінская фабрыка каляровага друку. 220225, Мінск, Каржанеўскага, 20.

Дыяпазітывы тэксту падрыхтаваны Мінскім ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінатам МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

250р